— У Коўні выкананы прысуд сьмерці над нейкім Вількіцкім, абвінавачаным у шпіёнстве на карысьць Польшчы. Прашэньне яго аб памілаваньні адкінена прэзыдэнтам Сматонай.

У Індыю прыбыў новы віцэ-кароль. У Бамбэі ён оказаў прамову, у якой заклілаў індускае грамадзянства супрацоўнічаць лаяльна з англійцамі, каб супольным высілкам вырашыць чарговую задачу — стварэньня адказнага ўраду і зраўнаньня Індыі ў правох з іншымі дамініямі (самастойнымі складовымі часьцямі) Брытанскай імпэрыі.

# Прамова Ярмеіча ў Сойме.

### Замест фельетону.

З прычыны непрабуднага летаргу „Сялянскай Нівы“ большасьць прамоваў Ярмеіча ў беларускай прэсе ня бачылі сьвету. Нашаму супрацоўніку на аснове матарыялаў Генэральнага Штабу з Полацкай вуліцы, удалося адну такую прамову з даўнейшага Сойму зрэканструктаваць на тэму актуальную і сягоньня.

Высокая палата!

Давадзілася мне гаварыць з гэтага высокага месца аб усім патроху: і аб асьвеце маіх цёмных выбаршчыкаў, і аб бюджэце, і аб кондыфікацыі права, і аб ратыфікацыі міжнародных дагавораў. Сягоньня мушу сказаць аб зьмене констытуцыі, бо маю свой уласны праект.

Агулам кажучы, дрэнна сталася, што гэтая справа, на мой пагляд дробная, дасталася аж у Сойм. Мы тут маем пільнейшыя справы. Новую констытуцыю трэба было правясьці дэкрэтам і толькі, але калі так ня сталася—устаўлю і я цэглу ў гэту будыніну. Дык прашу калегаў уважна мяне выслухаць, гэта знача, газэт у часе маей прамовы ня чытаць, не храпсьці ў крэслах, ног на пульты не закладаць, а перадусім зашпіліцца. (*Маршалак*: ня ваша гэта справа! Хто тут маршалак, я ці Вы?).

Перадусім аб самым слове констытуцыя. Па што гэта чужаземшчына? Пагібель ведае, што за слова. Ня толькі мае выбаршчыкі (*Голас*: дзе яны?), але нават я сам ня ясна разумею. Ані то аўстрыяцкае ані швайцарскае слова. Гаворыш „констытуцыя“, а думкі зусім непрызваітыя ў галаву прыходзяць. Вось прапаную эндывідуальна і конкрэтна назоў констытуцыі змотармофозіць. Новы назоў мае быць, так сказаць, больш рэльефны, імпозантны і віцэ вэрса. (*Голас на ўкраінскіх лавах*: про шчо він балакае? *Маршалак звоніць*: пане пасол Ярмеіч, гаварыце ў дзяржаўнай мове; хоць Ваша беларуская мова прыгожая і падобная да лацінскай, то-ж аднак мусім трымацца рэгуляміну).

Мяне часта застанаўляла, якія мае слабыя бакі марцовая констытуцыя. Чаму, думаю сябе, кожны яе гвалціць? Аказываецца затое, што яна скроена паводле апошняй парыскай моды; не ўстарэла, дык дзіва, што ўсім падабаецца? а як падабаецца, то і гвалцяць. Такі ўжо сьвет настаў. Нябось, даўней, за царскага прыжыму, ніхто ня меў адвагі ламаць констытуцыі. (*Голас*: ці-ж яна была? Со pan z byka spadł?). Была, ня была — прашу так ня лаяцца. „Бык“ слова не парлямэнтарнае, а па другое, у нас на ім ня езьдзяць. Але вяртаемся да тэмы. Сягоньня прысьніўся мне дзіўны... (*Маршалак звоніць*: прашу сноў не расказываць. Гэтакага пункту ў парадку дня няма). Выбачайце, пане Маршалку, я ведаю, што няма, але мой сон быў констытуцыйнага зьместу і мае вялікае значэньне для справы. Сьніцца мне гэта, разумееце, нейкая старэнькая бабулька. Прыглядаюся: скура і косьці, белы каптур на галаве, на грудзёх вялізная, быццам фірмовая пячаць. Чытаю: „Констытуцыя 3 мая“ і цыфра 1791. Мусіць нумар тэлефону, думаю сябе, і хуценька запісаў. Падсуваю старушцы крэсла і кажу: „Слухаю Пані Констытуцыі“. Яна пачала: — „Мой родненькі — кажа—ня кідай мяне старую. Звальняецца ў вас пасада на констытуцыю. Да цяперашняй, сучаснай вы яшчэ не дарасьлі. Без пратэкцыі загіну. Закінь там за мяне слова. Хацела-б вярнуцца на зямлю пажыць, бо-ж я ніколі яшчэ ня жыла. Век не забуду, малюся за цябе, каточак, каб табе век паславацъ.

Аргумэнтацыя, як бачыце, моцная. Хацеў я толькі запытацца, якая яе партыйная індыолёгія, але не пасьпеў, бо прачхнуўся. Думаю сябе: сон, то сон, але напрыклад у бібліі аж роіцца ад прарочных сноў. Выкінь іх адтуль, дык шмат рэлігіяў напалову зрэдукуецца. (*Воплескі на комуністычных лавах*). А можа, думаю, і тут ёсьць нейкі віц-маёр. Ляту, бачыце ў Сойм і пытаюся, ці няма якой, хоць невялічкай бібліётэкі. Ці дасьпё веру, аказваецца мы маем у Сойме бібліётэку (*На салі сьмех*). Прачуцьцё не памыліла. Паказалі мне констытуцыю 3 мая. Чытаў яе ад раньня да вечара і цяпер Вам, паны, скажу проста з моста: лепшай констытуцыі мы ня склеім, хаця-б на галовы станавіліся. Прапаную яе прыняць бяз зьменаў. Пашто ламаць адчыненыя дзьверы? Адпачынем лепш! (*Воплескі на эндэцкіх і камуністычных лавах*). Што? і комуністы са мной? (*Голас на лявіцы*: бо комуністы ўжо паншчызну ў сябе завялі, а эндэкі яшчэ завядуць пры Вашай помачы. Констытуцыя 3 мая паншчызну не скасавала!

Я тут чую голас аб паншчызне. Высокая палата! Ня такі чорт страшны, як яго малююць. Скажу больш: наш мужык яшчэ пана патрабуе, бо сам панам быць не патрафіў-бы. Білі яго паны ў скуру яшчэ замала, калі ён выбірае ў гэтую палату пераважна паноў. Трэба, каб яму добра ў каршэнь нагрэлі, каб ведаў, хто свой, а хто чужы. Я напр., калі паеду на вёску як няведамы чалавек ці, культурна кажучы, інкогуто, дык мяне бяруць за пана, цалуюць у рукі і здалёку кланяюцца. А як толькі вышлю з сталіцы сьпешную тэлеграму, гэта зн. дрындзіг, каб мяне выбаршчыкі як пасла спатыкалі на вёсцы, дык спатыкаюць толькі даўжнікі з вэксалямі, выбарвымі рахункамі, або з просьбамі аб пажычках. Но ці-ж іх ня лупіць? (*Голас на сялянскіх лавах*; праўда, халера, кажа; скуль ён такі ўзяўся). Во дзіва, што праўда. Галышмэны ведалі каго выбіраць. (*Голас на ўкраінскіх лавах*: гэть хрунь поганы, не на то мы тебе выбірали, шчо-б ты паншчлзну заволив. Здавай мандат! Загально тобі не місто на трибуне). Чаму ня месца? Я да гэтых высокіх сфэраў, дзякаваць Богу, прывык, калі яшчэ сядзеў... (*Голас:* на тэлеграфным слупе) ў папераднiх Соймах. Вы там, калега, мне аб тэлеграфіі ня рэзоньце, бо віджу, што ваш лысы акумулятар лішне разладаваўся. (*Голас*: А Вам ніколі яго не заладавалі, бо ў вас не акумулятар, а акварыум заместа галавы). Адносна акварыума... (*Маршалак*: пане пасол Ярмеіч, прызываю вас да парадку. Гаварыце аб констытуцыі). Дык што там доўга гаварыць, калі ня даюць чалавеку выказацца. Прапаную правясьці ў жыцьцё Констытуцыю 3 мая, адкінуўшы назоў бяз ніякіх зьменаў г. зн. эн блох, а ручаю, што з увагі на век, і вякамі замацаваную пашану, ніхто яе гвалціць не пасьмее.

(*Воплескі і авацыі на комуністычных і эндэцкіх лавах*).

З вольнымі адступленьнямі ад стэнаграмы прамовы зьбеларушчыў

**Белы.**

# Хроніка.

— **„Жаноцкая Справа“.** Выйшаў з друку № 2 „Жаноцкае Справы“, выдаванай Аб'яднаньнем Беларускіх Жанчын імя „Цёткі“ пад рэдакцыяй гр. Н. Шнаркевічовай. Нумар мае багаты і разнародны зьмест, які складаецца з наступных стацей і аддзелаў: перадавіца „Да працы“ Н. Шнаркевічовай“, „Як адчыніць беларускую бібліотэку-чытальню“, „Пясьняркі Усходняе Беларусі“, „Гутаркі аб гігіене“ д-ра Зофіі Луцкевічовай, „Парады для матак“, „Ці варта ўмець шыць і вышываць“, Цёткі Тоні, „Гаспадарчыя парады“. Дапаўняе нумар справаздача аб сьвяткаваньні трынаццатых ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, аддзел „Да нас пішуць“ (пісьмы з вёскі), хроніка беларускага жыцьця і доўгі рад адказаў на запытаньні чытачак „Жаноцкае Справы“.

— **„Заранка“ № 2.** Вышаў з друку другі нумар дзіцячае часопісі „Заранка“.

— **Новая кніжка.** Вышла з друку дзіцячая кніжка з вельмі цікавым зьместам і малюнкамі ў тэксце пад назовам „Мышанё Пік“.

Каштуе гэтая кніжка 60 гр. без перасылкі. На перасылку аднае кніжкі трэба прыслаць паштовую марку за 10 гр. Выпісаць можна з кнігарні Белар. Выдавецкага Таварыства — Вільня, Вострабрамская вул. № 1.

— **Агульны сход Бел. Дабрадзейнага Т-ва** адбудзецца 3 траўня 1931 г. у 6 гадз. вечара ў памяшчэньні Т-ва пры Вострабрамскай вул. № 9. Парадак дня наступны: 1. Справаздача Ураду і Рэвіз. Камісіі. 2. Зацьверджаньне бюджэту на 1931 год. 3. Выбары Ураду і Рэвіз. Камісіі. 4. Выбары прадстаўнікоў у Цэнтрасаюз. 5. Бягучыя справы.

19. IV 1931 г. **Прэзыдыюм.**

— **Ліквідацыя „Хатняга Промыслу“.** Урад кооперацыва „Хатні Промысл у Вільні“ склікае першы ліквідацыйны сход на 26. с. г. ў кватэры гр. Я. Станкевіча, пры вуліцы Квашэльнай № 23, кв. 1.

Парадак дня:

1. Справаздача ўраду з дзейнасьці за год 1929, 1930 і 1931.
2. Пастанова аб ліквідацыі кооперацыва.
3. Выбары ліквідацыйнай камісіі.

Другі ліквідацыйнай сход з гэтым самым парадкам адбудзецца 9 чэрвеня.

За Урад

**М. Гузоўскі.**



# Карэспандэнцыі.

### Самаволя.

(в. Забярэзь, гм. Бакштанскай, Валожынскага п.)

Захапіўшыся заклікам Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў да культурнае працы, па ініцыятыве моладзі нашае вескі, Цэнтрасаюз адчыніў у нас бібліотэку-чытальню.

Ня гледзячы на тое, што ўсе фармальнасьці, вымаганыя законам, пры адчыненьні бібл.-чытальні, былі найдакладней выканаты, аднак, калі загадчык бібл.-чытальні, Янка Пратасэвіч, атрымаў ад Цэнтрасаюзу кніжкі для бібліотэкі і пачаў працу, зьявіўся камандант пастарунку паліцыі ў Бакштах, Язэп Пэлка, і налажыў на гэтыя кніжкі арышт. Забіраючы кніжкі на пастарунак, камандант Пэлка, аблаяў Я. Пратасэвіча рознымі недарэчнымі славамі, як: палітыкант (хоць Янка Пратасэвіч палітыкай не займаецца), бальшавік, бандыт і г. д., ды, зрабіўшы пратакол, страшыў карамі. Аб гэтым факце быў паведамлены Цэнтрасаюз з просьбай інтэрвэнцыі.

У выніку ўсяго аказалася, што паступак каманданта Пэлкі ёсьць нішто іншае, як звычайная самаволя, скіраваная проціў пашырэньня асьветы сярод моладзі нашае вескі, бо пасьля некалькіх дзён, відаць, па загаду п. Старасты Валожынскага павету, кніжкі былі зьвернены бібл.-чытальні.

З гэтага прыкладу бачым, што ня трэба палохацца наскокаў ня ў меру руплівых агентаў адміністрацыі, калі ўсё робім паводле закону. Трэба толькі паведамляць свой Цэнтрасаюз, які будзе заўсёды старацца даць абарону ад незаконных рэпрэсіяў.

**Чытач.**

## Ад Рэдакцыі.

**Дзеля нястачы месцы, цэлы рад карэспандэнцыяў, ня маючых тэрміновага характару, прышлося адлажыць да наступнага нумару. Просім нашых паважаных карэспандэнтаў выбачыць нам гэта і пісаць далей.**

## Пісьмо у Рэдакцыю.

Паважаны гр. Рэдактар!

Гэтым прашу Вас не адмовіць надрукаваць у Вашай газэце наступнае:

Будучы па паходжаньню беларускай, і атрымаўшы выхаваньне ў Віленскай Беларускай Гімназіі, я ўсю сваю працу была гатовай аддаць на карысьць Краю і беларускаго народу. Апошнія тры гады я займала дзяржаўную пасаду, працуючы на пошце ў Вільні, дзе карысталася ўсімі правамі на роўні з іншымі працаўнікамі, а дзякуючы сумленнаму выконваньню службовых абавязкаў хутка здабыла прыхільнасьць і даверра свайго кіраўніцтва.

Працуючы на ўрадавай пасадзе, я абсалютна не адчувала ніякіх рэпрэсыяў з боку кіраўніцтва і, як гэта ня дзіўна, рэпрэсыі гэтыя былі выкліканы, дзякуючы палітычнай працы некаторых бел. дзеячоў, карысь якое для беларускае справы зьяўляецца вельмі сумліўнай. 13 лютага г. г. пасьля рэвізыі ў маім памешканьні, паміма таго, што абсалютна нічога ня знойдзена, затрымана мяне ў арышце аж да 16 лютага г. г., а дзеля таго, што я не зьявілася да працы ў працягу двух дзён, — на аснове службовых рэгулямінаў — была звольнена з пасады. Цяпер асталасябяз усякіх матэрыяльных сродкаў. Здарылася гэта толькі таму, што п. Тарашкевічу, як відаць для нейкіх яго палітычных мэтаў, аказалася патрэбным і маё прозьвішча з адрасам, якое, як кажуць, было знойдзена ў яго партфэлі пры арышце ў Тчэве. Аднак сьледзтва не знайшло нічога кампрымітуючага проціў мяне і я магла быць у хуткім часе зусім рэабілітавана, каб не наступны факт: у паперах нейкае п. Скуркі, якой абсалютна ня ведаю, ізноў была знойдзена маё прозьвішча.

Рашуча пратэстую проціў правакацыйнага ўжываньня з боку каго-б то ня было у сваіх „сьпісках“ без маёй згоды ня ведама для якой мэты майго прозьвішча і адрасу.

Адкрыта заяўляю, што палітычнаю працаю не займалася і ніякае антыпаньствовае акцыі не вяла, а дзеля гэтага ані з Тарашкевічам, ані са Скурчанкай, ані з кім з іх прыхільнікаў нічога ня мела і ня маю супольнага.

Іх-жа працу лічу ня толькі не карыснай, але і шкоднай для Беларускага Народу.

З пашанай **М. Маічыць.**

Вільня, 23 красавіка 1931 г.

P. S. Прашу іншыя газэты перадрукаваць вышэйпададзены ліст.

Радактр-выдавец: **М. Сіняўскі**
Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.